УДК 821.161.3-1
ББК 84(4Беи)-5
А11

Аўсяннікава, Т.П.
А11 Між іншым… Вершы / Тамара Аўсяннікава. – Магілёў. – 2019. – 44 с.

У кнігу ўвашлі вершы розных гадоў. Яны аб'яднаны ў тры раздзелы: "Крохкі пласт жыцця", "Ціхая далеч душы", "Пад другім вуглом".

УДК 821.161.3-1
ББК 84(4Беи)-5

# І. КРОХКІ ПЛАСТ ЖЫЦЦЯ

***

Я люстэрка на стол паставіла —
Госць з’явіўся нязваны-няпрошаны.
Ён калікай за стол садзіцца,
І заводзіць ён песню сумную.
Я той песняю наталілася,
Душой-сэрцайкам прасвятлілася.

Госць другі завітаў, усміхаецца,
Салаўём ён пяе-заліваецца.
На паўвека спазніўся спакуснік,
Кроў маўчыць і маўчаць мае вусны.
— Не спявай, Дон Хуан, мне асанну,
Я не Ханна твая, я не Ханна.

Раптам Шэры кульнуўся праз голаў —
І сядзіць чалавекам у чорным.
Перад носам паперкай махае,
Гэты зноўку мяне спакушае!
Ажангалася тройчы крыжам —
Знік пярэварацень хіжы.

2016 г.

***

Крычыць дзіця, народжанае толькі.
І потым — дзень і ноч — крычыць,
Не хоча нежыцем адразу быць,
Змагаецца за месца на Зямлі.
Пад Сонцам.

Адкуль жа сіла у такой малечы —
Безабароннай, чыстай — да жыцця?!
Зямны свой шлях прайсці
яно так хоча!
Дык дай жа Бог яму перамагчы.
Крычы, вястун, крычы!..

2016 г.

***

Снежань без снегу.
Рэсквась  і морак.
Горад не горад —
Прайсці няма як.

Людзі сумуюць,
Людзі хварэюць,
Красак і сонца
Просіць душа.

Маміну хустку
На плечы накіну,
Вып’ю гарбаты
І кніжку вазьму.

Тут мне і сонца,
Тут мне і зімы,
Тут мне і краскі,
Тут і душа.

2016 г.

***

— Як жывеш, чалавеча?
— Жыву, як жывецца.

— Чым жывеш, чалавеча?
— Тым, што Богам даецца.

— Аб чым думкі твае?
— Аб унуках  і дзецях.

— А сабе? Аб чым дбаеш сабе?
— Каб на гэтым пажыць яшчэ свеце.

— Ці шкадуеш аб чым?
  Шлях нялёгкім бывае.
— Ні аб чым не шкадую.
  Па заслугах мы маем.

2016 г.

# РАБІНКА

Нечакана рабінку між тлуму прыкмеціла,
У здзіўленні застыла прад  ёю.
А яна прыгажосцю нязвыклай прывеціла,
Сарамліва звесіўшы голле.

Хто ж пагнуў, пакруціў твае галькі стромкія,
У тугія вузлы пазавязваў?
І за што несла здзекі няўмольна-горкія,
І цнатлівую постаць страціла?

Не сумуй жа, рабінка, сятрыца родная,
Ты такая адна — непадробная.
Ты здзіўляеш, натхняеш, прыцягваеш вока,
І душы адзінокай — не так адзінока.

21.10. 2016 г.

***

Урэшце рэшт прыйшла зіма.
Мароз трашчыць, цалуе шчокі.
Бялюткай коўдраю зямля
Укрылася.
Вісяць аблокі.

Іду бадзёра, снег рыпіць,
Сваволіць вецер, абдымае,
І хочацца на свеце жыць,
Але…
Нажніцы Атрапас трымае.

08.01. 2017 г.

***

О, не пытайцеся,
ну як я ёсць!
І пра здароўе не пытайцеся
ні ў якім разе!
І зусім не трэба.

Усё не пастаяннае,
як неба,
як думка ў сказе,
як вада ці вецер.

І няма, не будзе ў свеце
нам пастаянства.
І зусім не трэба
яго шукаць.

Непастаянства нашае
патрэбней хлеба.
Яно так многа можа даць,
адкрыць і зразумець, узняць!

О, не пытайцеся,
ну як я ёсць.
І пра здароўе не пытайцеся.
Ні ў якім разе…

17.08. 2017 г.

***

Ў чарзе за пенсіяй стаялі
ўсе адзінокія.
І — пара.
Мы знаем: праўды ў нагах мала.

Прыселі… на лавачку старыя.
Ён так пяшчотна жонцы паглядзеў
у вочы,
што твар Яе заззяў, нібы дзявочы.
— Ну, гамані, — Ён Ёй сказаў.

На гэтым завяршу аповед свой.
Не трэба слоў, бо ёсць Любоў.

10.12. 2017 г.

# СТАРАСЦЬ

## 1. ***

Старасці ўсё шкодзіць,
Старасці ўсё не так —
Хтосьці над галавою ходзіць…
Такі ж, магчыма, бядак.

А старасці справы якія
Да старасці да чужой?
Тут справіцца б са сваімі
Бяссонніцай  і нудой.

Такі прывярэдлівы стан.

Перашкаджаюць гукі,
Перашкаджаюць пахі,
Не даюць спаць мукі —
Грахоў мінулага гмахі.

Старасць — такая зараза!
Джаліць бязбожна гадзюка.
Старасць — такая параза!
Наровіць памерці ў муках.

Старасць — такая брыдота,
Гляне ў люстэрка —
Пытаецца: “Хто там?”

2. ***

Старасць бывае рознай.

Мудрай, ласкавай,
Бездапаможнай,
Нямоглай, гняўлівай
І асцярожнай;

Духоўнай бывае,
Бы зёлкі гаючай,
Прыстойнай бывае,
Часам — скрыпучай;

Гордай бывае,
Як правіла, беднай,
Высакароднай,
Ахвярнай, сумленнай.

— Сёння старыя
Ёсць груз непатрэбны,
Цягнуць з казны
Яны грошы бязмерна.

Каб не старыя —
Краіна ўдыхнула б,
Расправіла б плечы,
Наперад рванула. —

Старасць клянуць
Маладыя, начальства:
— Нам не дажыць! —
Чутно іх бахвальства.

Ласкава, доню,
Глянь ты на маці,
Сынку, прысядзь
На хвілінку ля бацькі,

Бо хутка ў дзверы
Няпрошаны госць —
З кавенькай халера:
— Я тут, ягамосць.

08, 25. 08. 2018 г.

***

На мяжы я стаю,
Я стаю на канаце,
Неба хістаецца
над галавою…

Маці з бацькам у хаце
У строях вясельных
сядзяць —
Не мелі такіх ніколі.
Не давялося мне знаць
Шчаслівай іх долі.

Позняе шчасце іх,
І я — позняя, позняя…
Чобаты адны на дваіх —
Жыццё адыёзнае.

18.08. 2017 г.

***

О каб вярнуць той час, калі!..

…ты снішся мне
ўсё тым жа маладым.
І так, як некалі,
душу трывожыш,
і адпусціць цябе
ўсё просіш, моліш,
а я не маю сіл
расстацца каб. І не хачу.

У цемру ночы нема я крычу!..
Цябе  няма.
Ты — здань. Ты — дым.
О каб вярнуць той час, калі!..
Але ж…

Ты будзеш вечна маладым,
а я — так ад цябе далёка…

27.08. 2017 г.

***

Пачакай.
Я яшчэ не гатова:
Не сабрала святочныя строі,
Каб з табою ў дарогу апошнюю йсці.
Мне патрэбна ўпарадкаваць
Справы зямныя.
Пачакай. Не заві.

Пачакай.
І не стукайся ў дзверы,
Я яшчэ адчыняць не хачу,
Не заглядвай у вокны начныя
І дажджом не звіні.
Не трываж ты мяне.
Не заві.

Пачакай.
У пасцелю са мной не кладзіся,
Неадступна за мной не хадзі,
І не стой за плячыма так блізка,
Не сягоння, а заўтра
Навечна з табой застануся.
Пачакай! Не заві.

10.08. 2016 г.

## ЛІСТ
да Жэні Янішчыц

Дзень добры,
шчыры сябра мой,
са светлаю душой
і сэрцайкам чуллівым!
Пішу табе ў нябыт
з удзячнасцю за дабрыню,
за радасць стрэч
і за паэзію,
што свеціць нам і сёння.

Душа твая
праз верш са мной гамоніць
і новым сэнсам адкрываецца.
І голас твой
крыляе над зямлёю
птушкай вольнай,
якую прыручыць ніхто не змог.

Я веру — ты мяне пачуеш.
Паклон прымі ад нас
і грэшным нам даруй!
Даруй…
Даруй…
Даруй…

29.10. 2016 г.

# II. ЦІХАЯ ДАЛЕЧ ДУШЫ

***

Адзінота — мой сцень.
Адзінота — мой крыж.
Адзінота — і крылы мае.

2015 г.

***

Ўва мне адзінота
Усіх адзінокіх:
Каханне і Боль,
Любоў і Святло.

Я зорка ў Нябёсах,
Я зерне Сусвету,
Я ноль, я нішто.

03.09. 2017 г.

***

Абрубкамі, з якой віны,
Дрэвы стаяць.
Нібы адгалоскі вайны,
Нема крычаць.

Дрэвы хочуць жыць.
Яны расцвітуць па вясне.
Але… дрэвам баліць!
Іх раны баляць і мне.

12.04. 2012 г.

***

Ліхтары-дзьмухаўцы
Ўздоўж дарогі.
Вока Божае угары —
Месяц двухрогі.
Углядаецца ў цемру,
Зыркае вокам,
Бо яму, як і мне,
Адзінока.

2016 г.

***

“Хуткая” — хутка.
Хвораму — доўга.
“Хуткая” — ёсць.
Чалавека — няма.
Сэрца спынілася.
Стукаць стамілася.
Летам
настала
зіма.
2016 г.

***

Хай Зямля зелянее заўжды,
Толькі б не стала Чорнай.
Папярэджаннем ад бяды —
Пропаведзь Нагорная.

І хай будзе бялюткай зямля,
Чысціню хай нясе, а не згубу.
Роза Міру распусціцца для
Усяго паспалітага люду.

Снежань, 2016 г.

***

Бяссонне сон цікуе мой —
Са сном бяссонне не сябруе,
Бяссонне коршунам над сном —
Застыла над ахвяраю, пільнуе.

І неразлучны сон з бяссоннем,
Як Цемра й Свет, Дабро і Зло.
Усё ж стамілася бяссонне…
І прыплывае човен-сон.

30.03. 2017 г.

***

Жыццё мяне не шкадавала,
Бацькі любілі, як умелі:
Не песцілі, не абдымалі,
Да працы змалку прывучалі,
Каб знала смак і горыч хлеба.

17.07. 2017 г.

# НЕ ГУКАЙЦЕ ВЯСНУ…

*Чужы боль не баліць,*
*Пакуль тваім не стане.*

У кожнага праўда свая
ісціны не дазналіся
два першых каханні
ў канцы жыцця
сустракаліся
гойкала ў сэрцах вясна
далёкая
ды не стала для іх яна
лекарам

два сыны ў Яе
два сыны ў Яго
дарослыя
продня між імі ляжыць
нязносная
здаровыя мальцы Яе
Яго — хворыя
болька ў сэрцы Яго
невымоўная

баліць сэрца і ў маці
за сваіх здаровых —
за чужых і хворых
сэрца не баліць

Не гукайце вясну…

18.08. 2017 г.

*Бойся спазніцца са словам харошым…*
Ніна Мацяш

Я іду і цень ідзе
слава Богу
значыць я жыву
Богава нябога

як пакіне цень мяне
прахам стане цела
а душу Суд не міне
як бы ні хацела

покуль разам цень і я
дружна крочым
не спазніцца б мне сябры
са словам харошым.

18.08. 2017 г.

## АЎЦІСТ

Нараджаюцца часам дзеці,
не як усе, а з Божай адмецінай.
Ідзе падлетак, камусьці даводзіць:
— Зразумей, зразумей, зразумей…
І не выходзіць
давесці таму, невядомаму
(відаць, дуралей),
калі не бачыць відомае.

14.12. 2017 г.

*К. Башарымавай*

Я парушу закон Ньютана —
Хай любоў у доме паселіцца —
Растаплю халодныя сэрцы
І агрэсію сонечным промнем!
Мо асколкі жорсткага свету
Іх паранілі непрыкметна,
Бо не бачаць яны
ні ў чым прасвету…

18.01. 2018 г.

***

Якім далёкім гарызонт здаваўся…
І як ён блізка сёння падышоў.
О, як даўно за ім адчайна гнаўся!..
Было, было і адышло…

О, як хацелася пабачыць
За небакраем — што?
Хацелася усё мне
перайначыць,
Жыццё каб шчаслівейшае было.

Увіты машкарой плафоны,
Раўнюсенька пастрыжаны газоны,
І я падкошаны, панікла галава…
До-рэ-мі-фа… до-рэ-мі-фа…

18.08. 2017 г.

***

Галава мая — радар.
Тазік медны: дзінь-дзінь-дзінь.
Космас — думак валадар —
Белы Ян і чорны Інь.

Ці то ў сне, а ці на яве
Чую дзінькканне: дзінь-дзінь.
І вандрую ў Наві, Праві
З белым Ян і чорным Інь.

18.08. 2017 г.

***

О, матылёчак аксамітны!
Як трапіў ты ў пакой?
Якую вестку мне прынёс?

У дзень святочны ты з’явіўся,
Дык хай жа светлым будзе
Твой існы знак асенні!

Цябе на волю адпускаю:
Ляці, здзіўляй, красуйся,
Напоўні радасцю людскія сэрцы.

14.10. 2018 г.

***

Думкі адпрэчу скрушныя.
Думкі прывечу светлыя.

Пакладу я думкі-недругі
На воблака лёгкае.
Ты нясі іх, лёгка воблака,
Праз палі бяскрайнія,
Праз лясы дрымучыя
У глыбока мора сіняе.

11.11. 2018 г.

***

А чыя ж то родна мовачка
Знелюбелай стала,
А якім жа людцам добрым
Жыць перашкаджала.

А яна ж слухмяная,
А яна ж пявучая —
Перацялі горлейка
Ды скруцілі ручанькі.

11.11. 2018 г.

***

Людзі падманваюць людзей,
Людзей падманваюць людзі.

Людзі абураюцца на людзей,
На людзей абураюцца людзі.

Людзі нараджаюць людзей,
Людзей нараджаюць людзі.

Людзі забіваюць людзей,
Людзей забіваюць людзі.

Людзі ствараюць сістэмы,
Сістэмы руйнуюць людзей.

— Адкуль жа бяруцца не людзі? —
Пытаюцца людзі ў людзей.

Хто вінаваты? Каго асудзяць?
Няўжо вінаваты вечна габрэй?

Глянь, чалавек, у люстэрка,
Вочы чые на цябе глядзяць:
Нелюдзя вочы, ці чалавека?..

10.11. 2018 г.

***

Бываюць такія хвіліны,
што хочацца выць
ваўчыцаю,
зайсціся крыкам
сычыным,
збегчы ў поле,
у лес сысці,
каб нікога не бачыць.

Каб рэха разнесла
і крык, і выццё —
прастору запоўніла.
Каб хмары дажджом
разам са мною рыдалі,
каб зоры зацята маўчалі,
каб вецер мой крык
на шматкі парваў
і на сметнік выкінуў.

І каб ніхто
пра гэта не знаў,
дaлібог, не выпытаў.

01.05. 2017 г.

## НАЗІРАННІ

1. ***

Лапікі на дарогах —
Гэта аплявухі ўлады
Кармільцу-народу.

20.06. 2013 г.

2. ***

Пыхае пыхам пыхлівец пыхлівы.

07.06. 2016 г.

3. ***

Лятала варона, каркала,
весткі разносіла горкія.
І вось ляжыць варона
на халодным снезе —
ні гу-гу, ні кар-кар —
скончыўся яе каляндар.

14.12. 2017 г.

4. ***

Нягодная родная мова.

10.11. 2018 г.

5. ***

Плача котка малая ўначы…
Вецер котку люляе,
слёзкі дождж выцірае.

10.07. 2018 г.

6. ***

Як на свете пражыць,
каб сумленне не мучыла,
каб маўчала, калі ты
не можаш нічога змяніць.

01.10. 2018 г.

# КАРОВА
## Байка

### 1. ***

Ўсяму свой час,
Свае парадкі і свая выснова.

На пенсію пайшла карова.
Карова маладой была.
Не бегала яна — лятала.
Дзе толькі брала сілы,
Каб паспяваць і там і тут?!
Напэўна, памагалі крылы.

І вось спраўляе юбілей карова.
— Каб ты была здарова, —
Ёй кожны гаварыў.
— Ты малайчына,
Прыгожая і маеш крылы.
— Табе так лёгка ўсё даецца,
Нам да цябе далёка.

— Не трэба траціцца на сыр, смятну,
Навошта працаваць? І я не стану,
Як толькі дажыву, —
Малола языком суседка, —
Ей-Богу, будзеш сведкай.

Карова галавой ківала і маўчала.

Прайшоў гадок, другі,
Карова не пазбегнула тугі.
Карова болей не лятала —
Падняцца ў неба не давалі ланцугі.

2009 г.

**2. *****

Для кожнага свой час,
Свае парадкі і свая выснова.

На пенсіі даўно карова.
Яна не так ужо здарова,
Але прыгожая яшчэ,
І трохі мае сілы,
І паспявае там і тут —
Бо памагаюць крылы.
Нікому іх не аддае
І беражэ ад злога вока.
Памые. Высушыць.
А ранкам надзяе,
Лунае думкамі высока.

І вось мая выснова:
Не бойся пенсіі, карова.

2015 г.

## САВА І ПАРАСКА

— Што ляжыш як недарэка,
На двары ўжо дзень,
Певень сто раз кукарэкаў.
Не мужык дастаўся — пень.

Дроў схадзі мне прынясі —
Буду печ тапіці,
Дулю ты ў мяне з’ясі —
Трэба зарабіці.

Што за дровы? Дзе іх браў?
— У двары, пад плотам.
— Для сябе калі ты дбаў?
Што рабіў ў ахвотай?

Дроў не знойдзе. Я знайду.
Дурань, адчапіся.
Ой, на голаў, на бяду
Ты мне нарадзіўся!

Есць садзіся, будзем снедаць.
Прычасаў бы кудлы,
А то ходзіш нібы старац,
Альбо кот аблудны.

— Ну, Параска, ну, зараза,
Як пачую яшчэ зык,
Вырву з жалам твой язык,
Не сцярплю я больш абразу,

Дрынам зараз адхаджу!
— Што ты, Савачка, маўчу.

2015 г.

***

*Я не паэта, о крый мяне божа!*
*Не рвуся я к славе гэткай німала.*
Янка Купала.

Я не паэтка, о крый мяне Божа!
Не рвуся я к славе гэткай німала.
І думаць аб ёй мне нават не гожа,
Хоць гучна завуся — Тамара.

Схлушу, калі стаць не хацела
Паэтам, як Янка Купала,
Ды дзе там, чарга падаўжэла:
Наперадзе хлопцы і Анка Упала.

Я сілюся вершык свой напісаць,
Заглядваю ў сэрца і слухаю неба.
Ды раптам Мядзведскі —
смяецца, птамаць:
“Не трэба пісаць, ой, не трэба”.

2012 г.



Фота Таццяны Палхоўскай. 2018 г.

Тамара Аўсяннікава нарадзілася 24 мая 1949 г. у в. Сяўкі Лоеўскага раёна Гомельскай вобласці. У 1966 г. скончыла Малажынскую сярэднюю школу і паступіла ў БДУ на філалагічны факультэт. Пасля заканчэння працавала на Віцебшчыне настаўніцай рускай мовы і літаратуры.

З 1973 г. жыве і працуе ў Магілёве. Кіраўнік гарадскога літаратурнага клуба “Святліца” ДУДА “ЦТДМ “Агат” г. Магілёва”.

Першая публікацыя з’явілася ў 2000 г. у газеце “Магілёўская праўда”. Успаміны і публіцыстычная артыкулы друкаваліся ў розных часопісах і газетах Беларусі.

Аўтар зборніка паэзіі “Скрыжалі”, кнігі прозы “Любачка”. Адзін з укладальнікаў чатырохтомнага выдання “Яўгенія Янішчыц: творы, жыццяпіс, каментарыі”.

Сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў.

# ЗМЕСТ

## КРОХКІ ПЛАСТ ЖЫЦЦЯ



## ЦІХАЯ ДАЛЕЧ ДУШЫ

## ПАД ДРУГІМ ВУГЛОМ

Літаратурна-мастацкае выданне

**Аўсяннікава Тамара Пятроўна**

Між іншым...

Вершы

Камп`ютарны набор аўтара

Вёрстка Настасся Аўчыннікава
Рэдактар Эдуард Мядзведскі
Вокладка Святлана Кобелева

На франтыспісе фота Наталлі Ушаковай

Наклад 24 экз.